# Як піонэры Ляхаўкі праводзілі „Першага Мая“.

## Піонэры „міністры“ і „подпольшчыкі“.

Гэту гульню „1-га мая“ правяла Ляхаўская раённая організацыя піонэраў гораду Менску. Гульня адбівала барацьбу рабочае клясы з царскім урадам.

У гульні прымалі ўдзел 24 піонэрскіх атрады (поўнасьцю) і 250 вучняў. Удзельнікі гульні былі разьдзелены на 2 часткі. 1-я частка—паліцыя, шпікі і царскія ўрадоўцы (11 атр. і 100 вучняў), 2-я частка—рабочыя (13 атрадаў і 150 вучняў). Гульня цягнулася з 27-га красавіка (6 гадзін вечара), па 3-га траўня (7 гадзін вечара).

У гульні былі дадзены: 1) царскі ўрад, міністэрства, войска, турмы, шпікі, паліцыя; 2) рабочыя, падпольная організацыя бальшавікоў, забастоўкі, дэмонстрацыі, падпольная друкарня, правакатары.

Царскія ўрадоўцы насілі вопратку, як паліцэйскія ў старыя часы, а рабочыя мелі чырвоную зорку на грудзях, шпікі насілі асобныя значкі ў кішэнях.

Правілы гульні:

У плен маюць права браць толькі паліцэйскія (царскі ўрад),—рабочыя ў плення маюць права браць, а толькі забіваюць на сьмерць. Забітым лічыцца той, у каго зьнят значок. Забітыя выбываюць з гульні. Да 1-га мая адбываецца падпольная работа рабочых і бальшавікоў, а 2-га мая адбываюцца бойкі рабочых з царскім урадам. Бойкі канчаюцца перамогай рабочых над царскім урадам.

Месца гульні—некалькі вуліц і кварталаў гораду, некалькі дамоў, у якіх зьмяшчаліся міністэрствы, вайсковы штаб царскай паліцыі; потым консьпіратыўныя кватэры рабочых організацый і завод.

### 1-шы дзень гульні.

7 гадзін вечара. Пагода вельмі добрая. Здалёку паказаўся атрад піонэраў—удзельнікаў гульні—рабочая група. Атрад за атрадам, з сьцягамі, барабанамі і сыгналамі ідуць піонэры к памяшканьню Райкома,—да 7½ гадзіны большая частка вуліцы была занята піонэрамі і вучнямі. Частка іх атрымала шашкі і пайшла туды, дзе зьбіраецца паліцыя.

Выстраіліся ўсе стройнымі шэрагамі. Наперадзе красаваўся плякат „Гульня 1-га мая пачата“ і некалькі сьцягаў. Сыгнал... гул бубна, каманда—і пашлі...

Толькі былі чутны вясёлыя песьні. Потым астаноўка, гутарка... І гучнае „ура“ пасьля слоў: „Мы павінны быць актыўны і дысцыплінаваны, тады ў нас гульня пройдзе добра і дасягне мэты“.

Пасьля зноў каманда „марш“, гул бубна „трах-та-тах“... Крык і шум нясьціхалі: вельмі захапіліся гульнёй. Пасьля маленькая інфармацыя аб тым, што рабіць заўтра... І піонэры з песьнямі разышліся дамоў.

### 2-гі дзень гульні.

28-га красавіка. Піонэры сабраліся загадзя каля райкому. Настрой ува ўсіх бадзёры...

Сыгнал... І ўсе на сваіх мясцох: адбываецца мітынг. Пасьля мітынгу праца за-

---

### ЗЬМЕСТ



---

Рэдколегія: **Г. Брыгневіч, С. Жураўскі, М. Мамчын, А. Пякарчык, А. Якімовіч.**

Адказны рэдактар **А. Пякарчык.**

Да змаганьня за справу працоўных будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР


**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 10** **МАЙ** **1927 г.**




# Дэлегацыя нямецкіх піонэраў у СССР.

**Дваццаць пяць хвілін у Менскіх піонэраў.**

Ленінградзкія піонэры запрасілі на свае сродкі дэлегацыю нямецкіх піонэраў на Міжнародны Дзіцячы Тыдзень і для азнаямленьня з жыцьцём дзяцей СССР.

14-га мая ноччу дэлегацыя праехала праз Менск. На вакзале сабралася многа менскіх піонэраў і прадстаўнікі ЦБ ЮП. Падыходзіць цягнік. Наша піонэрыя сустрэла яго гучным „ура“ і гулам бубнаў, вітаюць дэлегатаў. Іх усяго 5 асоб—два піонэры (саюз „Юны Спартак“), адзін сябра дзіцячай спартыўнай організацыі, адзін—сябра організацыі „Кіндэрлянд“, адзін—павадыр.

У часе астаноўкі выступіў павадыр, сябра спартыўнай організацыі і піонэрка. Іх агульная думка была: у адказ на недапушчэньне піонэраў СССР у Нямеччыну урадам, яны едуць пазнаёміцца з жыцьцём дзяцей СССР для таго, каб перадаць гэта нямецкім дзецям і адначасова расказаць нам, як жывуць дзеці Нямеччыны. Гэтым-жа цягнікам ехаў сябра ЦК Комуністычнай Партыі Нямеччыны *Пік*, ён таксама вітаў нашых піонэраў. Пазнаёміў з задачамі і цяжкасьцямі, у якіх прыходзіцца працаваць нямецкаму пролетарыяту і іх дзецям. Ён перадаў, што ў Нямеччыне зараз распаўсюджваецца закон аб перадачы школы ва ўладу цэркві, гэтак сама распаўсюджваецца строгая цэнзура і конфіскацыя над усім пролетарскім, дзіцячым і юнацкім друкам. У сувязі з гэтым прыходзіцца нямецкай компартыі і організацыі юных спартакаўцаў весьці вялікую і цяжкую работу навокал гэтага.

Між іншым, расказаў аб правале параду фашыцкай організацыі „Стальны Шлем“. Ён гаварыў: „Цікава было бачыць, як калёны „Стального Шлему“, праляцелі пад аховай паліцыі, спужаўшыся чырвоных франтавікоў і рабочых, якія пелі рэволюцыйныя песьні“. Скончыў тым, што задача цяпер компартыі аб'яднаць нездаволеныя масы, весьці іх адзіным фронтам супроць сусьветнага капіталізму.

25 мінут стаянкі цягніка хутка праляцелі, і ён хутка рушыўся на Маскву...



Дэлегацыя нямецкіх піонэраў.

**Склад дэлегацыі—хто яны?**

*Гэрда Айзеншмідт* з гораду Іена (Цюрынгія), дзяўчынка 13 год, вучыцца ў народнай школе. Бацька яе рабочы—будаўнік, матка—прачка. *Гэрда*—сябра

школьнай ячэйкі Юных Спартакаўцаў імя *Леніна* (у групы 13 чалавек) у тымжа горадзе ёсьць адна група імя *Будзёнага,* у якой 27 чалавек. (У Нямеччыне організацыя Юны Спартак (піонэры) падзяляюцца на школьныя ячэйкі для барацьбы і работы ў школе).

*Гайнц Прыз* з гораду Гамбургу, хлопчык 12 год, вучыцца ў пачатковай школцы, сябра школьнай ячэйкі Юных Спартакаўцаў, у якой 13 чалавек. Бацька яго каменшчык, сябра компартыі Нямеччыны, а маці дамашняя гаспадыня.

*Гэрта Райсман,* г. Лейпцыг (Саксонія), дзяўчынка 14 год, скончыла пачатковую школу, цяпер ходзіць у абавязковую прафшколу, дзе вучаць, як вышываць і іншым гаспадарчым работам. Бацька яе рабочы—будаўнік, маці—дамашняя гаспадыня. *Гэрта* зьяўляецца сябрам організацыі „Кіндэрлянд“ (гэта організацыя з пролетарскіх дзяцей, нядаўна організаваная, яна ахоплівае розныя групоўкі ўзростам ад 10 да 25 год, знаходзіцца пад апекай бацькоў. Яна вывучае політычныя пытаньні, але ў політычнай барацьбе ўдзелу ня прымае). Між іншым яна вельмі пасябравала з піонэрамі. Па дарозе яны вялі некаторыя політычныя спрэчкі, напасьля яна сказала, што як вернецца ў Нямеччыну, уступіць у організацыю Юных Спартакаўцаў.

*Кары Шуэльман* з Бэрліну, хлопчык 13 год. Сам ён сябра вучнёўскай сэкцыі пролетарскай спортыўнай організацыі. Бацька яго сябра незалежнай соцыялдэмократычнай партыі, маці—дамашняя гаспадыня.

*Фрыц Шумахэр* з Дзюсельдорфу (Паўднёвы раён) кіруе організацыяй Юных Спартакаўцаў Паўднёвага раёну, сябра Комсамолу, сябра Компартыі Нямеччыны і сябра саюзу „Юныхштурм“.

Два піонэры засталіся ў Польшчы, у іх ня было неабходных дакумэнтаў, але на-днях яны прыедуць у СССР.

## Мы і яны.




Параўнаўчая колькасьць буржуазных (зьлева) і рэволюцыйных (справа) дзіцячых організацый за мяжою.

## Дзе яны пабудуць?

Яны паехалі ў Маскву, у Маскве некаторыя застануцца, а астатнія паедуць у Ленінград. Думаюць быць у гарадох: Тула, Арол, Харкаў, Днепра-Пятроўск, Луганск, Сэвастопаль і лагер Артэк. Думаюць пазнаёміцца з работай ня толькі зьверху, але і з нізавой работай піонэрорганізацыі, работай спортыўных організацый, жыцьцём і работай дзіцячых устаноў і з гісторыяй нашай організацыі.



# Сярод пролетарскіх дзяцей Гамбургу.

*(З дарожных нататак комсамольца).*

Дзесяткі і сотні параходаў з усіх краін сьвету штодня прыходзяць у Гамбург. Яны прывозяць сюды розныя тавары.

Тысячы людзей, дарослых і маладых, ад раньня да познага вечару, як мурашкі, капошацца навакол параходаў.

Вось у гэтым порце*) наш параход і зрабіў астаноўку.

...Калі я вышаў у горад, то ўбачыў на вуліцы наступны малюнак: едзе 2-калёсная каляска, на якой пастаўлены цяжкія бідоны з малаком. Але вы думаеце, што гэта малако п'юць дзеці гамбурскіх рабочых?—Не, яны яго ня п'юць, а толькі развозяць. Дык вось у гэткую каляску і запрэжан, як конь, 12-гадовы хлопчык, які, напруджваючы ўсю сваю сілу, возіць гэтую каляску па магазынах і здае малако, а за гэта ён атрымлівае ня больш маркі ў дзень (марка 47 кап.).



*Былышы злачынца і бяспрытульны — цяпер вучыцца на каваля.*

Сягоньня ў Гамбургу адбывалася дэмонстрацыя беспрацоўных. З сьцягамі, на якіх было напісана: „Мы патрабуем работы“, „Мы галадаем“, „Далоў урад капіталістых“—гамбурскія рабочыя пайшлі па вуліцах усяго гораду дэманстраваць сваю незадаволенасьць. Сярод іх было таксама шмат дзяцей, шмат піонэраў. Вось з адным з іх, якога завуць Курт, мяне і пазнаёміў адзін сябра.

Курт—гэта маленькі хлапчына ростам, але яму ўжо 15 год. Ён зьяўляецца актыўным працаўніком Гамбургскай організацыі юных піонэраў. Цяпер ён ужо комсамолец і зьяўляецца павадыром аднаго атраду. Шмат, вельмі шмат цікавага расказаў мне Курт. Калі мы праходзілі па аднэй вялікай вуліцы, ён мне кажа:

— Вось, бачыш, у нас тут шмат магазынаў, у магазынах шмат дабра, але гэта не для нас. Пралетарскія дзеці Нямеччыны нават ня маюць куска хлеба.

— Вось, паглядзі,—дадае ён,—на вуліцы стаіць паліцэйскі. У яго вісіць рызінавая палка і гэтай палкай ён б'е кожнага—ці будзе гэта маленькі ці дарослы.

* * *

На другі дзень, праходзячы па аднэй вуліцы на акрaіне Гамбургу, я ўбачыў групу дзяцей, якія ў руках трымалі кінжалы і шчыты. Я падышоў да іх і пытаюся:

—Што вы робіце, дзеці?

—А цябе гэта вельмі цікавіць? — адказаў мне адзін хлапчук.

— Але, мяне вельмі цікавіць.

— А хто ты будзеш?—задаў пытаньне адзін.

Калі я ім сказаў, што я расіец, то яны ўсе сталі вясёлымі і сказалі, што гуляюць у фашыстых і рэволюцыянэраў.

— Вось,—гаварыў адзін бойкі хлоп-

*) Порт—месца, дзе стаяць караблі.

чык,—мы ўтрох рэволюцыянэры, а вось гэтыя ўтрох—фашыстыя. Ты тут пастой, убачыш, як мы ім дамо гуза.

Мне гэта вельмі спадабалася, я сказаў дзецям, каб яны ўсё-ж-такі асьцярожней адзін аднаго білі, і разьвітаўся з імі. Калі я адыходзіў, я здалёку ўчуў, як адзін хлапчук крыкнуў: „Няхай жыве Масква!“

Акруговы Камітэт Саюзу Юных Спартакаўцаў знаходзіцца ў памяшканьні Гамбурскага Камітэту Комсамолу. Калі я прышоў туды, то сустрэў там 15-гадовую дзяўчынку, якая паказалася мне вельмі знаёмаю. Яна мяне адразу пазнала. Аказалася, што гэта Паўля, тая самая Паўля, якая ў лістападзе 1925 г. была ў Маскве на міжнароднай дзіцячай конфэрэнцыі. Зараз яна працуе ў Камітэце Саюзу Юных Спартакаўцаў.

Яна мне расказала, што нядаўна ў Гамбургу адбывалася забастоўка партовых рабочых, спартакаўцы разам з усімі комсамольцамі актыўна распаўсюджвалі комуністычныя лістоўкі. Затым мне Паўля расказала аб тым, як яна жыве.

— Бачыш, кажа яна,—у нас вельмі дрэнна жыць. Нямецкія дзеці ўжо даўно нават хлеба з маслам ня елі, у нас у рабочых сем'ях масла не ядуць, яно каштуе вельмі дорага, заміж гэтага ў нас ядуць маргарын. Маргарын—гэта такое какосавае сала, яно вельмі нясмачнае, але калі больш нічога няма—і яго ясі. А вось я сама цяпер паступіла на работу вучаніцай, і за ўсю гэту работу атрымліваю 15 марак у месяц (гэта прыблізна 7 рублёў).

* * *

На другі дзень я яшчэ раз убачыўся з усімі таварышамі—нямецкімі піонэрамі, разам з якімі я быў на дэмонстрацыі. Яны мне перадалі ліст, які прасілі перадаць піонэрам Савецкага Саюзу.

**М. Калосьнік.**






Заняткі ў клюбе скончыліся, але ніхто не сьпяшаўся выходзіць. На дварэ холадна, завіруха, а тутака цёпла, сьветла, прытульна. Піонэры слухалі, задумаліся, прыслухоўваліся да шуму знадворку.

„Добра сядзець цяпер дома на печы і слухаць казкі старога дзеда“,—сказаў Юзік, ціхі хлопчык з блакітнымі вачыма.

„Вось чаго надумаўся!“ — засьмяяліся таварышы:—„Гэта-ж усё глупства, няпраўда, нават шкадліва слухаць такую бязглузьдзіцу“.

„Я і сам ведаю, што няпраўда“,—адказаў Юзік, але часам прыемна пазабавіцца і глупствам“.

Знайшліся таварышы, якія падтрымалі Юзіка. Пачаліся спрэчкі.

Увайшоў настаўнік (клюб зьмяшчаўся пры школе). Зразумела, піонэры зацікавіліся, як глядзіць ён на гэтае пытаньне.

„Нельга сказаць, каб казкі былі зусім дрэнная рэч“,—сказаў настаўнік.—„Яны могуць узьняць думку вышэй, паказаць да чаго імкнецца чалавек, што яго цікавіць, хай будзе гэта і няпраўда. Бяда ў тым, што нашы звычайныя старыя казкі гавораць толькі пра цароў, чарцей, чараўнікоў, духаў і ўсялякую здань, якія ня маюць ні сэнсу, ні праўдзівай падставы. Яны не пашыраюць думкі, а наадварот, затрымліваюць яе толькі вакол чарцей і нябожчыкаў. У той час, як могуць быць такія казкі, якія дзіўней за ўсіх чарцей, якія могуць узьняць нашу думку на такую вышыню, да якой ніводзін казачнік не дадумаецца, і разам з тым усё гэта будзе амаль што праўдзіва“.

„Як-жа-ж гэта?“—зьдзівіўся Юзік.—„Дзіўней за ўсе казкі і разам з тым праўдзіва. Тады гэта ня будзе казка“.

„А вось, калі хочаце, я магу вам расказаць такую казку“,—усьміхнуўся настаўнік.—„А вы паглядзеце, ці казка гэта, ці не“.

„Калі ласка, просім!“—раздалося з усіх бакоў, і піонэры згрупаваліся вакол настаўніка.

Той пачаў:

### Вандраваньне па зорках.

Жыў-быў хлопчык, ну, назавем яго Юзік. Ён вельмі добра вучыўся, усім цікавіўся, чытаў шмат кніжак. Раз ён пачуў вядомую вам усім загадку: „Што хутчэй за ўсё на сьвеце?—Думка“. І вельмі зацікавіўся сэнсам гэтых слоў.

„Праўду кажуць“—думаў ён.—„Вось я падумаў, што я ў Амэрыцы, вось я падумаў, што я на зорцы. Эх, каб можна было сапраўды так хутка пералятаць!“. І з таго часу ён толькі і думаў аб гэтым.

І вось аднаго разу перад ім зьявіўся нейкі дзед, з белаю барадою, у белым адзеньні.

Ён здаваўся такім добрым, ласкавым, што Юзік нават ня зьдзівіўся і не спалохаўся.

— Хочаш паляцець так хутка, як думка?—спытаўся дзед мяккім голасам.

— Хачу,—ледзь чутна адказаў хлопчык.

— Дзе хацеў-бы быць?

— На тэй зорцы.

— Добра —сказаў дзед, махнуў рукой,—і яны апынуліся на зорцы.

— Глядзі цяпер на зямлю.

І ўбачыў Юзік бойку на вуліцах гораду. З аднаго боку рабочыя, з другога—

салдаты. Вось паказаўся аўтамабіль; на ім стаіць чалавек, нешта кажа рабочым.

— Як ён падобны да Леніна!—ускрыкнуў хлопчык.

— Ён сам і ёсьць.

— Жывы?

— Жывы. Ты бачыш сапраўдныя падзеі ў час Кастрычнікавае рэволюцыі.

Юзік хацеў быў запытацца, як гэта могуць быць падзеі сапраўдныя, калі яны ўжо прайшлі, але не пасьпеў: яны пераляцелі на другую зорку.

— Глядзі цяпер,—сказаў дзед.

Юзік убачыў ужо зусім другую старонку. Другі горад і людзей, апранутых зусім інакш. На плошчы слуп, да яго прывязаны чалавек, пад ім нібыта раскладаюць вогнішча. Навакол стаяць шмат ксяндзоў з крыжам і, далей—народ.

—Што яны робяць?—запытаўся Юзік.

— Паляць жывым італьянскага вучонага Джыардана Бруна, за тое, што ён выкладаў сапраўдную навуку, не такую, як у бібліі. Адбылося гэта ў Рыме, у 1600 годзе, а ты цяпер бачыш зноў тое самае.

—Тое самае?!—зьдзівіўся хлопчык.

—Так. Усё тое самае. Бачыш, ён яшчэ жывы.

Вось ужо запылаў агонь, полымя абхапіла небараку, ён корчыцца...



Вось я падумаў, што я на зорцы...

Юзік ня мог глядзець і сплюшчыў вочы. Калі ён зноў адчыніў іх, перад ім быў ужо другі вобраз.

У лагчыне нібы войска, нібы натоўп з паўголых людзей. На камені стаіць чалавек і нешта кажа ім. Яны патрасаюць зброяй. Тымчасам з другога боку да іх набліжаецца войска, сільнае, стройнае.

— Гэта гладыятары, — тлумачыў тым часам дзед,—рымскія рабы, якія для пацехі паноў павінны былі ў цырках біцца паміж сабою на сьмерць. Яны цяпер паўсталі, а гэты чалавек на камені—іх правадыр Спартак. Вось набліжаецца Рымскае войска. Падзеі адбываюцца за 2.000 гадоў да цяперашняга часу.

Вось пачалася бойка. Спартак сьмела кінуўся ўперад. Вось чатыры чалавекі напалі на яго. Двох ён забіў, але заразжа сам паваліўся на зямлю мёртвым. Сярод гладыятараў мятусіна. Вось яны ўжо пераможаны. Іх ловяць, тут-жа робяць драўляныя крыжы і прыбіваюць да іх жывых людзей з драўлянымі цьвікамі...

— Не магу глядзець!—застагнаў Юзік. Міг—і яны на новай зорцы.

Перад Юзікам жоўтая пустынная краіна, сярод якой, як стужка, цягнецца цёмная рака. На беразе нейкая будоўля. Відаць некалькі скончаных аграмадных пірамідаў. Вось некалькі тысяч голых людзей валакуць камень, велічынёю з сялянскую хатку. Даглядчыкі падганяюць іх бізунамі...

—Гэта 6.000 год таму назад у Эгіпце рабы будуюць царом-фараонам пірамíды - помнікі,—кажа дзед.

—Якія ўсё жудасныя і цяжкія падзеі,—сказаў Юзік.

— Няўжо-ж нічога добрага ня было?

— Для працоўнага народу ня было,—адказаў дзед,—і яны мільганулі на другую зорку.

—Ну, глядзі цяпер.

Вёска. Дзядзінец. Бегае маленькі хлопчык з дубцом. Выходзіць з хаты старэнькі дзядуля...

— Гэта... гэта-ж наша вёска! Наш двор!—прабарматаў Юзік. Гэта-ж мой дзед!... А... А хлопчык, здаецца, я сам... Я прыпамінаю, мне знаёма.

— Праўда, гэта-ж ты сам—усьміхаючыся адказаў праважаты.

— Жывы?

— Жывы, сапраўдны.

— Як-жа-ж гэта?...—пачаў хлопчык.

— Аб гэтым калі-небудзь даведаешся сам, калі-будзеш добра вучыцца. А цяпер ужо час дадому...

І Юзік апынуўся ў сваёй хаце.

---

Настаўнік скончыў.

— Ну, як падабаецца казка?—запытаўся ён.

— Казка цікавая — адказаў Юрка, — але... гэта-ж звычайная казка. Яна нічым не адрозьніваецца ад усіх іншых. А выказалі, што будзе нешта праўдзівае.

— Так яно і ёсьць,—адказаў настаўнік,—ня меней, як палова казкі— чыстая праўда.

— ?!...

— Няпраўда толькі, што хлопчык мог ляцець і бачыць. Каб гэта можна было б зрабіць, тады ўся рэшта была-б праўда.

— І жывога Леніна бачылі - б? — насьмешліва запытаўся Юрка.

— Жывога, тагочаснага, сапраўднага.



Гэта гладыятары, якія для пацехі паноў павінны былі біцца між сабой.

— І эгіпэцкіх фараонаў?

— Усё тое самае. Не малюнак, ня здань, а тыя самыя падзеі.

— І сябе самога?—засьмяяўся Юрка.

— І сябе. Таксама, як мы цяпер цябе бачым.

Пераглянуліся піонэры і зарагаталі: вядома жартуе настаўнік.

— Ну, тады слухайце,—пачаў ён:—Вам, мусіць, прыходзілася зьвярнуць увагу на такое зьявішча; больш-менш далёка ад вас чалавек сячэ дрэва, напрыклад, будуе хату. І вось вы бачыце, што ён стукнуў па бервяну, падняў сякеру да пляча,—і тады толькі вы чуеце гук—хрась! быццам ад яго пляча.

— Бачылі, ведаем!—сказалі дзеці.

— Гэта азначае, што адбітак сьвятла ад сякеры дайшоў да вашых вачэй адразу, а гук патраціў некаторы час, пакуль дайшоў да вашых вушэй. Вылічана, што ён патрабуе адну сэкунду, каб праляцець 330 мэтраў, або 3 сэкунды на кілёмэтр, ці 20 кілёмэтраў у мінуту і г. д. Гром і маланка адбываюцца разам, а нам здаецца, што спачатку бліскае маланка, а потым загрукаціць гром. Значыцца, сьвет нібы адразу даходзіць да вачэй, а покуль праляціць гук, пройдзе болей часу. Каб можна было зрабіць так, што ў Амэрыцы страляюць гарматы, якую-б мы маглі бачыць і чуць, тады мы маглі-б, напрыклад, цяпер убачыць агонь і дым ад стрэлу, потым пайсьці спаць, назаўтра ўстаць, пасьнедаць, сабрацца тутака каля поўдня,—і тады толькі мы пачулі-б— бух! — ад учарашняга стрэлу.

Цяпер мы падыходзім да самага галоўнага пытаньня:

— А сьвятло, ці патрабуе часу, каб праляцець гэтую самую адлегласьць?

— Патрабуе. Яно ў даным выпадку патраціла-б $^1/_{25}$ (адну дваццаць пятую частку) сэкунды. Здаецца, і лічыць нельга такі час, але паглядзім, што робіцца на вялізарных адлегласьцях.

Хуткасьць сьвятла таксама вылічана. Гэтая хуткасьць складае 300.000 кілёмэтраў у адну сэкунду. Значыцца, у 10 сэкунд сьвятло пройдзе 3 мільёны кілёмэт-

раў, у адну мінуту—18 мільёнаў кілёмэтраў, у адну гадзіну—1080 мільёнаў і г. д.

Цяпер уявеце сабе, што вы знаходзіцеся на адлегласьці 1.080 мільёнаў кілёмэтраў ад зьявішча. Тады адбітак сьвятла ад яго дойдзе да вашых вачэй праз гадзіну, гэта значыць, што вы ўбачыце зьявішча *праз гадзіну пасьля таго, як яно адбылося*. Ну, а калі вы будзеце знаходзіцца ў 24 разы далей,—вы убачыце праз *суткі*, а калі яшчэ ў 365 разоў далей—*праз год*, потым праз 10—200—1000—10.000 год!..

Ну, вось, калі-б мы маглі адразу трапіць на зорку, якая знаходзіцца ад нас на адлегласьці, напрыклад, у 100 год і каб маглі разгледзець, што робіцца на зямлі,—мы ўбачылі-б *сапраўдныя падзеі, якія адбываліся 100 год назад*. Адзіная розьніца паміж намі і тымі людзьмі, якія тады прысутнічалі, была-б толькі тая, што яны бачылі-б, напрыклад, пасьля аднэй мільённай часткі сэкунды, а мы—праз 100 год. Самае-ж зьявішча, людзі і ўсе падзеі былі-б тыя самыя, сапраўдныя. Трэба адзначыць яшчэ, што самая далёкая зорка, адлегласьць ад якой да гэтага часу вылічана, знаходзіцца ад нас на 220 тысяч год.

Бачыце вы цяпер, што казка мае значную долю праўды?

Выходзіць, што так,—адказалі зьдзіўленыя дзеці.

— Калі-ж так,—сказаў піонэр Костусь,—значыцца і мы павінны бачыць зоркі не такімі, як яны ёсьць, а такімі, якімі яны былі.

— Праўда! Малайчына!—пахваліў настаўнік,—можа мы часам і глядзім на зорку, якой ужо даўно няма, а мы бачым яе, пакуль астатнія праменьні яе ня дойдуць да нас.

— Але адкуль-жа людзі маглі даведацца і вылічыць усё гэта?—запыталася адна дзяўчынка.

— А вось вучэцеся і самі будзеце ўсё ведаць, а цяпер яшчэ гэтакай навукі вы не зразумееце. Покуль што вылічце вы адлегласьць да нашага сонца, калі сьвятло ад яго да нас ідзе 8 мінут і 18 сэкунд. А калі знойдзецца сярод вас гэрой, хай спрабуе вылічыць адлегласьць да самай далёкай зоркі.

**Янка Маўр.**



Хто хоча быць дужым і здаровым -займаецца фізкультурай.

# Каб ня гэты шэры кот — цэлы быў-бы самалёт

Верш *Г. Асота*

Малюнкі *Вало.*

Янка майстрам быў шчэ змалку.
возьме нож, сякеру, палку
і габлюе і сячэ,
пакуль кроў не пацячэ.
(Шанцавала, бачыш, мальцу:
што ні дзень — парэжа пальцы).
Да васьмі год ладзіў штукі,
посьля ўзяўся за навуку,
і уведаў ён па пляну,
як будуюць „арапляны“.
Узяла хлапца ахвота
пракаціцца самалётам.
— Не вялікая тут штука,
прылажыць трэ‘ толькі рукі...
— Тут ня трэба часу год:
тыдні два—і самалёт—
гэтак Янка разважае,
матар‘ял усё зьбірае,
і патроху, памаленьку
ладзіць кольцы, шасьцярэнькі.
Урэшце так залёг за працу,
як на ліха стаў ламацца,



*І габлюе і сячэ,*
*пакуль кроў не пацячэ.*

з дошчак зроблены прапелер,
а хлапцу якраз прысьпела
скончыць сёньня-ж майстраваньне
ўсё да капелькі, да званьня.
Бачыш, здарылася дзела:



*Прачытаў у панядзелак*
*у „Беларускім піонэры“...*

прачытаў у панядзелак
у „Беларускім піонэры“,
(а тут нельга не паверыць),
што часопіс і атрады,
на вялікую ўсім радасьць,
свой спраўляюць юбілей.
Значыць, трэба чым скарэй
скончыць гэтую работу.
Янка мае наш ахвоту
паляцець на юбілей
на машыне на сваей.
Ад сьвітаньня, да зьмярканьня,
без вячэры, без сьняданьня,
Янка клепле на дварэ,
сон хлапца нат‘ не бярэ.
А вясна, тымчасам, ціха
надышла, красуе мігам;
сонца шле пяшчоты, ласкі,
зацьвілі на полі краскі
і так цёпленька усім,—
не да працы тут зусім.
Янку сон і агарнуў,
нечакана ён заснуў.
Сьпіць наш майстра,
сьпіць і сьніць,

у самалёце што ляціць...
Ён—галоўны авіатар,
а кругом яго—„рабята“:
кот, сабака, парсючок...
Павярнуў Ясь за кручок—
самалёт, бы „лісафет“,
па зямлі імчыцца, прэ...
Павярнуў ён за другі,
на вадзе пашлі кругі,
і яны—не на зямлі,
а ўжо морам паплылі.
Акіян-жа сіні, сіні...
Янка рад, што сам машыну
збудаваў, ды гэтак хвацка...
Раптам:
— Га-а-ў! — яго сабачка,
парсючок пішчыць аж нема,



*Ад сьвітаньня, да зьмярканьня,*
*без вячэры, без сьнaданьня,*
*Янка клепе на дварэ.*

у вaччу мігае неба,
узьнялася навальніца,
карабель пачаў тапіцца...
страх ўзяў, і Ян прачнуўся,
толькі глянуў і... жахнуўся:
на кавалкі самалёт
пашчапаны.
— Эх народ!—
гэтак Янка наш падумаў,
ахінуўся увесь сумам:
небараку стала шкода
марна згінуўшай работы.
Я кажу, што самалёт,
быў-бы цэлы, каб ня кот,
па страсе што вунь скакае.



Справа вышла бач такая:
Янка спаў, а хлеба луста
тут ляжала,
з сваім густам
да яе прышла сьвіньня.
Жук рабую стаў ганяць.
Далікатна, асьцярожна
(вінаваціць іх ня можна)
забаўляўся Жук з сьвінёю.
Зацікавіўся гульнёю,
кот сядзеў што на страсе.
Краўся ён ўсё пакрысе,
а нарэшце — ка-лі... скочыць!
Засланіла Жуку вочы:
Так хапіў сьвіньню за вуха,
што куды там ужо хрукаць,
толькі піснула, зьнямела
і палезла на прапелер.
Паляцела ўсё на шматкі:
шасьцярэнкі і лапаткі,
засталіся адны цацкі,
а ішло ўсё гэтак хвацка.
Стаіць Янка, чуць ня плача,
трэба зноў рабіць, ня йначай.
Ах, ня здох ён гэты кот —
цэлы быў-бы самалёт.



*Ён—галоўны авіатар,*
*а кругом яго—„рабята“.*

# Тэхніка ў барацьбе з прыродай

З таго часу, як зьявіліся цягнікі і параходы, чалавек адчуў сябе ўладаром земнае кулі. Яму перасталі ўжо здавацца страшнымі тыя вялікія адлегласьці, якія адмяжоўваюць адзін народ ад другога, адну краіну ад другой краіны...

Залітыя электрычным сьвятлом, мільгаючыя экспрэсы[1]), якія бяз грукату імчацца па бліскучых, пакручаных, як гадзюка, рэйках; вялічэзныя акеанскія параходы, абсталяваныя з казачнай раскошай, якія напамінаюць сабой плывучыя гарады; вялізарныя аўтамабілі, хуткасьць язды якіх непамерная,— усё гэта дадзена ў рукі чалавеку для карыстаньня!

Калі ў нашыя часы, дзе-небудзь у глухой непраходнай тайзе[2]), ля мізэрнага паўстанка імчыцца асьветлены багата цягнік, дык не адзін чалавек з незалежнай ад сябе зайздрасьцю паглядзіць яму ў сьлед: — „Шчасьлівыя! Некалькі гадзін назад яны былі дома, а праз два дні яны ўбачаць Японію, пабудуць у Эўропе!“.



Паветраны карабель.

У нашыя дні на земнай кулі няма амаль ніводнага куточка, дзе-б ня ступіла нага чалавека... Бязьмежныя ледзяныя пустыні, сьпякотныя пяскі Афрыкі, зваротнікавыя[3]) лясы Амэрыкі (вельмі густыя і вялікія)—перасталі ўжо быць загадкай, недаступнай і таемнай.

Чалавек дасягнуў да ўсяго і ўсюды!

Але ці танна яму прышліся гэтыя перамогі? Успомнім колькі страт і мук пераносілі падарожнікі, колькі натугі і працы паклалі вынаходцы, каб дасягнуць намечанай мэты!

Мы цяпер карыстаемся такімі сродкамі пераездаў, аб якіх некалі і ня марылі. І тым ня менш, ня гледзячы на гэтыя дасягненьні тэхнікі—чалавек яшчэ ня зусім перамог дзьве стыхіі: паветраную і пяшчаную! З часу вынаходкі першага аэрапляна не прайшло яшчэ і 25 год. Праўда, за такі тэрмін авіацыя (лятаньне ў паветры) зрабіла вялікія посьпехі, але... падарожжы па паветры ўсё яшчэ зьвязаны з вялікімі труднасьцямі, перашкодамі і небясьпекамі. Толькі за апошнія гады чалавек асьмеліўся рабіць з рызыкай для жыцьця кругасьветныя пералёты праз моры і акіяны. Яны цягнуліся цэлыя месяцы і каштавалі вялікіх грошай. Пераварыць падарожжа па паветры ў прыемныя пагулянкі, —вось чаго хоча дабіцца чалавек у сучасны момант! К гэтаму бязупынна імкнецца і тэхніка.

Паглядзеце на малюнак! На ім дадзен вялізарны самалёт, падобны на вялікую стальную птушку. Восем магутных сэрцаў, восем матораў (машын, пры дапамозе якіх рухаецца самалёт) разьмешчана на яго крыльлях. Крыльлі гэтыя пабудаваны таксама надзвычайна цікава. У сярэдзіне іх знаходзяцца вялікія калідоры, да таго высокія і доўгія, што па іх можна зусім вольна хадзіць. Гэта, бясспрэчна, мае вялікае значэньне. Сапсуецца адзін матор — лётчыкі змогуць зараз-жа, у часе палёту, аглядзець яго і паправіць. На борце (бакавой частцы самалёта) гэтага паветранага карабля нават будзе абсталявана спэцыяльная майстэрня для гэтай мэты.

Ня думайце, што такі волат[4]) зьяўляецца вынікам фантазіі! Зусім не! Цяпер у Амэрыцы канчаецца пабудова

[1]) Экспрэс—вельмі хуткі цягнік.

[2]) Тайга—вялікая пушча ў Сібіры.

[3]) Зваротнік — пас на земнай кулі з гарачым кліматам.

[4]) Волат – асілак, што-небудзь надзвычайна вялікае.

падобнага самалёта. На яго патрачана вельмі шмат грошай, але яны хутка акупяцца тымі выгодамі, якія будзе даваць новы самалёт...

З Амэрыкі ў Эўропу за 35 гадзін замiж 5 дзён,—вось новы рэкорд, які зьбіраецца паставіць вынаходца, славуты авіатар, *Луі Блерыё!*

Каюты (пакоі) на 150 пасажыраў, концэртная заля, радыё-станцыя і г. д.— вось тыя выгады, якімі будуць карыстацца будучыя падарожнікі.

Што-ж такое, у такім выпадку, перашкаджае чалавеку стаць поўным уладаром усяе зямлі? Адказаць на гэтае пытаньне ня цяжка! Вялікая пустыня Сахара (у Афрыцы) зьяўляецца ўсё яшчэ бязлюдным і мёртвым месцам. Бязьмежнае мора пяску, без канца і краю, душнае гарачае паветра і пякучае сонца... Ні аднаго дрэўца, ні аднаго раўка... Толькі дзе-ні-дзе сустракаюцца напалову высахшыя крыніцы. Чалавека тут сустрэць вельмі цяжка. Толькі часамі Сахару перасякаюць караваны вярблюдаў, з вялікімі запасамі вады і харчоў. На кожным кроку тут хаваецца сьмерць, — сьмерць з голаду, смагі ці ад пяшчанай мяцеліцы-самума.


Карабель пустыні.

І тым ня менш, ня гледзячы на дзікую і няпрыхільную прыроду пустыні, чалавек у сучасны момант рашуча імкнецца перамагчы ўсё гэта. Пачатак гэтае спробы быў паложаны ў 1921 г., калі некалькі сьмелых французаў пераехалі Сахару на аўтамабілях, якія мелі такія калёсы, як у трактараў. Посьпех падарожжа прымусіў задумацца шмат якіх вынаходцаў і вось, немец *Бішоф* злажыў проэкт „карабля пустыні“! Разьлічаны ён будзе на 300 чалавек! Вялізарныя памяшканьні, туга зачыненыя з усіх бакоў, якія не прапускаюць сьмяртэльнага подыху ветру пустыні, будуць служыць у той-жа час кладовымі для вады і харчоў. Матор-волат, які будзе прыводзіць у рух 4 вялікіх зубчатых калясы, парушыць цішыню пяшчанага акіяну сваім глухім шумам.

І тады—караваны вярблюдаў уступяць дарогу новаму сталёваму волату.

Чалавек яшчэ ня зусім перамог прыроду, але час перамогі ўжо блізка. Ня пройдзе і трох год, як усе гэтыя цудоўныя казкі тэхнікі стануць сапраўднасьцю. І вы, напэўна, убачыце гэта сваімі ўласнымі вачыма!

**П. Б.**





# ЯК САМОМУ ЗРАБІЦЬ МОДЭЛЬ САМАЛЁТА.

Давайце пабудуем самалёт. Ня дзівецеся—цяжкога ў гэтай працы няма нічога. Праўда, хоць у нашым самалёте будзе і матор, і пропэльлер, словам, усё, што маецца ў сапраўдным самалёце, але ён ня выйдзе ў нас такі вялікі, як магутныя сталёвыя птахі, што з такім асаблівым шумам кружацца над нашымі галовамі дзесьці далёка, далёка ў паветры—ён будзе да некаторай ступені адрозьнівацца ад іх.

Мы пабудуем невялічкую мадэль, і яна будзе лётаць ня горш за сапраўдны самалёт—трэба толькі ўважна ўзяцца за справу ды як сьлед давесьці яе да канца.



Мал. 1.

Будзем эканомны: мы зможам зрабіць свой самалёт з найтанейшага матар'ялу і самым простым струмантам. Часу гэта праца зойме ня шмат, трэба толькі цярпеньне.

А цяпер пачнем. Перш за ўсё трэба набыць пілку ды невялічкі рубанак—гэта галоўныя дапаможнікі ў працы, бяз іх дапамогі абыйсьціся нельга. Пасьля трэба мець гостры складаны ножык і сьвярдзёлак (ім нам трэба будзе пракручваць маленькія дзірачкі). Апрача таго, напэўна, у кожнага знойдуцца ножанкі. Вось і ўвесь інструмант!

Пяройдзем цяпер да матар'ялу. Галоўнай складанай часткай нашага самалёту будзе дрэва, таму трэба набыць тоненькіх хваёвых планак ці дошчачак. Іншыя часткі мы зробім з дроту; для гэтай мэты прыгодзіцца стары дрот з правадоў, з якога трэба зьняць ізаліроўку. Не забудзьцеся таксама набыць трохі матэрыі для крыльляў, хоць-бы паркалю.

Каб скласьці і змацаваць між сабой паасобныя часткі, нам патрэбны будуць дробныя цьвічкі і трубкі, сталярскі клей ды іголка з ніткай. Апрача гэтага трэба будзе дастаць матар'ял для матора. Для гэтага трэба дастаць мэтра з паўтара круглай гумы-рызіны (яе прадаюць або ў аптэцы, або ў гумавых магазынах), трохі залезнага дроту, прыблізна сярэдняга разьмера, ды трубу з пятлёю для дзьверных зашчэпак.

Вось і ўсё. Цяпер пачнем будаваць нашу модэль. Зробім перш за ўсё корпус самалёту, яго аснову. Для гэтага нам трэба выразаць дзьве тонкія планкі з хваёвых дошчак даўжынёй 36 см., ды гладзенька іх абстругаць. Краі гэтых планак трэба будзе моцна зьвязаць ніткамі, а пасьля праклеіць іх сталярскім клеем. Пасьля таго, як клей высахне, рассуньце планкі і ўстаўце між


Мал. 2

імі расьпіркі з дрэва, асьцярожна прымацаваўшы іх дробненькімі цьвічкамі (гл. мал. № 1).

Наша аснова гатова. Цяпер возьмемся рабіць крыльлі. Яны зьяўляюцца аднэй з вельмі важных частак самалёту, а таму іх трэба рабіць старанна. Матар'ялам

для гэтае работы будзе служыць дрот, з якога нам прыдзецца зрабіць фігуру, што паказана на мал. № 2.

Калі наш дрот будзе гнуцца, трэба скруціць яго ў дзьве столкі. Папярочнікі крыльляў, якія зроблены таксама з дро-







ту, трэба прымацоўваць вельмі старанна, асабліва на канцах, каб не зрабіць самалёт цяжкім. Закручваць канцы дроту трэба невялічкімі вузламі. Зробленыя крыльлі абшываюць матэрыяй.

Пры дапамозе дроту крыльлі прымацоўваюцца да асновы нашага самалёта. Так-жа сама трэба змайстраваць і заднія крыльлі ды хвост самалёта. Толькі дроту скручваць у дзьве столкі ўжо ня трэба, бо яны і так ня будуць гнуцца, таму што выйдуць параўнаўча невялікімі. (Гл. мал. № 3).

Прымацоўваючы крыльлі і хвост, трэба мець на ўвазе адлегласьць іх адно ад другога. На нашай модэлі пярэднія крыльлі знаходзяцца на 6 см. ад пачатку асновы, а заднія—ля самага канца. На канцы павінен быць прымацаваны хвост. (Мал. № 4а).

Цяпер пачнем рабіць найгалоўнейшую частку самалёта—матор і пропэльлер. Для матора нам трэба мець некалькі




стужак гумы. У нас яе маецца $1^1/_2$ м. Значыць, мы можам скласьці яе ў чатыры разы і, трохі зрэзаўшы вольныя канцы, абматаць ніткамі ды моцна сшыць (мал. 4). Гэтую справу мы пакуль што пакінем і падрыхтуем астатнія часткі нашага пропэльлера.

Выражам для гэтага з куска хваёвага дрэва невялічкі кубік з бакамі ў 2 см. ды, закругліўшы адзін з яго бакоў (апошні павінен быць павернуты да пропэльлера), пракруцім сьвярдзёлкам наскрозь дзірку. Гэтую фігуру трэба прымацаваць да пярэдняга канца асновы самалёта якраз над тым месцам, дзе сходзяцца канцы планак. Трэба памятаць, што гэты кубік павінен трымацца досыць моцна, а таму, апрача змацаваньня яго сталярным клеем, трэба змацаваць яго з асновай маленькімі цьвічкамі, убітымі зьнізу, або, яшчэ лепш, пры дапамозе тонкіх віньцікаў (мал. 5).

Цяпер нам застаецца зрабіць яшчэ пропэльлер, а пасьля злучыць яго з гумаваю стужкаю.




Каб зрабіць пропэльлер, трэба ўзяць таксама хваёвае дрэва. Выражце з гэтага дрэва тонкую планку ўдаўжкі на 13 см. і ўшыркі на 3 см. ды надайце ёй форму, якая паказана на мал. 6. Кожнае крыло гэтай фігуры абточваецца ды шліфуецца шкляной або наждачнай паперай.

У сярэдзіне пропэльлера пракручваецца дзірка, праз якую прапускаюць дрот, што адным сваім канцом замацоўваецца ў самым пропэльлеры, а другі канец праходзіць праз яго, пасьля праз кубік і загінаецца кручком (мал. 7). На процілеглым канцы модэлі ля хваста прывінчваецца другая пятля з вінтам (іх ужываюць для дзьверных кручкоў).

Наш маленькі самалёт гатоў. Прыгледзьцеся ўважна да астатняга малюнку; спрабуйце, ці вольна паварочваецца ўвесь пропэльлер у кубіку, ці моцна трымаецца гэты кубік на аснове; спра-

буйце, ці добра пастаўлены крыльлі, падкіньце для гэтага вашу модэль колькі разоў у паветра. Калі яна будзе спускацца плаўна, значыць, усе добра; калі не—трэба выгнуць крыльлі ўгару так,



Мал 8.

каб яна спакойна асядала. Цяпер усе часткі і падрыхтоўка скончана. Нацягнеце гумавую пятлю, складзеную ў чатыры столкі, адным канцом на пярэдні кружок, злучаны з пропэльлерам, а другім на задні. Глядзі, каб гумавыя стужкі трымаліся нацягнута, ня былі залішне слабымі ды ня зьвісалі. Трымаючы модэль леваю рукою зьнізу, пачынай круціць пропэльлер праваруч пры дапамозе вялікага і ўказацельнага пальца. Гума будзе скручвацца і скарочвацца. Зрабіўшы да 50 паваротаў або і больш, аднімеце рукі ад самалёта, ён фыркне і паляціць угару і, захоплены пропэльлерам, які раскручваецца, павольна паляціць наперад.

Такі, старанна зроблены, маленькі самалёт можа лятаць на значныя адлегласьці. Далячыня яго палёту залежыць будзе і ад таго, як вы яго зрабілі, ці ўважна прачыталі ды выканалі ўсе парады, ці не памыліліся ў чым-небудзь.

П. Бяляеў.

# ЯК Я ЗРАБІЎ КАРМУШКУ І ВАДАПОЙКУ ДЛЯ КУРЭЙ.

Зрабіць кармушку і вадапойку для курэй—справа не цяжкая, і кожны піонэр зробіць яе сам. Для гэтага я ўзяў дзьве дошкі па 1 мэтру даўжыні і 15 см. шырыні (можна браць і карацейшыя, гледзячы колькі курэй будзе з яе есьці). Гэтыя дошкі я зьбіў вуглом (глядзі мал. 1.).

А каб куры ня лезьлі ў кармушку і нагамі ня пэцкалі корму, я зьверху прыбіў пляначку (мал. 1), але і гэтак куры ўхітраюцца ўлезьці, асабліва кураняты. Тагды я прыбіў дошчачкі-пляначкі (мал. 2).

Пляначкі трэба прыбіваць адна ад другой на 10-13 см. Замест пляначак можна браць дрот. Робяцца з дроту клеткі так, каб можна было курыцы высунуць галаву. Але апошняя павінна зьнімацца, бо інакш нельга будзе чысьціць кармушку. Кармушку трэба абавязкова пасьля кожнага кармленьня мыць.

Вадапойка яшчэ больш патрэбна для курэй, чым кармушка, праз ваду перадаюцца розныя хваробы. У летнюю пару куры п'юць з раўкоў, дзе вада брудная.

Вадапойку зрабіў я наступным чынам: узяў 2 квадратовыя дошкі



Мал. 1.

і ў абедзьвюх выкруціў па 4 дзіркі. У верхняй дошцы выкруціў на сярэдзіне вялікую дзірку, каб магла ўлезьці бутэлька (гл. мал. 3).

Пасьля ўзяў 4 палкі і ўбіў у дзіркі. Пасьля бярэцца бутэлька, наліваецца поўна вадою, прыкладаецца кусочак паперы і пераварачваецца ў спода-


Мал. 2.

чак, які трэба паставіць на ніжнюю дошку. Вада з бутэлькі ня выльлецца таму, што паветра на паперу цісьне з большаю сілаю, чым вада з бутэлькі.

Перакуліўшы ў сподак бутэльку, паперка аднімаецца. і вада выльлецца. Як толькі дойдзе яна да краёў бутэлькі, дык больш выліваацца ня будзе затым, што паветра на ваду цісьне з большаю сілаю, чым вада ў бутэльцы. Калі-ж толькі куры адап'юць частку вады з сподачка, тады з бутэлькі выцякае зноў чыстая, сьвежая вада.

Вадапойку можна зрабіць з гаршка. Для гэтага трэба ўзяць абы-які гаршчок, наліць у яго вады, накрыць сподачкам і хутка перакуліць, каб на сподачку было болей вады. Можна ў краі гаршка выбіць дзірку, вада будзе трымацца каля верхняга краю дзіркі. Вадапойка з гарнушка


Мал. 3.

асабліва прыгодна ўлетку, бо ў гарнушку вада меней нагрэецца.

Ваду трэба мяняць кожны дзень.

**П. Гарошак.**



# КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ.

### 1. Каб ня дымілася лямпа.

Газавая лямпа часта дыміць. Сажа садзіцца на сьцены пакою, на рэчы, лезе ў горла, ад чаго псуюцца рэчы і шкодна для здароўя. Аднак ад сажы можна лёгка пазбавіцца. Гэта можна зрабіць так: новы кнот (фіціль) перш, чым зацягнуць яго ў лямпу, трэба апусьціць у рашчын воцту (уксус) і патрымаць яго там, пакуль ён не нацягне, потым пакласьці сушыцца і калі высахне, тады зацягнуць у лямпу. У газу-ж трэба дабавіць звычайнай солі. Норма: чайная лыжка солі на 800 грам газы.

### 2. Як склейваць разьбітую пасуду.

Часта разьбітую пасуду мы прывыклі выкідаць, як рэч зусім непатрэбную, між тым яе можна паправіць і зноў скарыстаць. Асаблівых выдаткаў для гэтага не патрабуецца. Бярэцца звычайны часнок, а затым сокам, выціснутым з яго, намазваюць берагі разьбітай пасуды, потым чарапы складаюць і пасуду ставяць сушыць. Сушыць трэба адзін дзень у цёплым месцы і справа кончана.

# Юныя мастакі Бабруйшчыны.

**Першыя крокі зроблены. Падагульваем вынікі працы гуртка ІЗО (гуртка прыкладнога мастацтва). Організоўвайце гэткія гурткі пры клюбах. Падшуквайце добрых кіраўнікоў.**

Організацыя гурткоў, у якіх добра пастаўлена праца,—ёсьць сапраўднае ажыцьцяўленьне працы ў піонэрскай організацыі. Мы сёньня падагульваем першыя вынікі ў працы гуртка ІЗО пры саюзе працаўнікоў „Асьветы“. „Цярплівасьць, акуратнасьць і строгая дысцыпліна ёсьць асноўныя запатрабаваньні ад сяброў гуртка. Гэтыя запатраваньні мы выконваем з вялікай ахвотай“—піша піонэр Хоха. Гурток дружны і добра спаяны ў колектыў, колькасьцю ў 17 чал., дзе піонэры, акрамя вучобы маляваньня, вучацца колектывізму, акуратнасьці і наогул атрымліваюць выхаваньне, якое патрэбна для пролетарскіх дзяцей.



*Дзіжурная выстаўкі.*

### Крыху гісторыі.

Саюз працаўнікоў „Асьветы“, дзе ёсьць пэдагогі, мастакі і інш., прымусіў комсамольскую ячэйку падумаць аб скарыстаньні іх для ажыўленьня піонэр-працы. Думка аказалася жыцьцёвай,—даў на гэта згоду мастак тав. *Сарокін*. Пад кірауніцтвам тав. Сарокіна, зацікаўленыя піонэры распачалі сваю працу ў канцы лістапада мінулага году.

### 3 чаго пачалі.

Пачалі з вырэзваньня літар на паперы, якія потым наклейваліся на аркушы паперы, і стварыліся досыць прыгожыя лёзунгі і плякаты. У маленькім цёмным памяшканьні на сваіх кавалках паперы распачалі сваю працу будучыя мастакі. Праз некаторы час сваю працу паказалі сябром саюзу ў насьценнай газэце. Першы нумар насьценнай газэты зацікавіў шмат сяброў саюзу сваёй мастацкасьцю і прыгожасьцю.

### Што далей.

Пісалі лёзунгі, плякаты для клюба. Палепшылася матар'яльнае становішча. Гурток заваяваў належны аўтарытэт сярод настаўніцтва і клюба. Для хутчэйшага выконваньня „заказаў“, з фанэры выпілоўвалі трафарэты *) розных шрыфтаў. Акрамя гэтага вырэзвалі з фанэры нажы для рэзкі паперы, рамкі для фатографаў, размалёўвалі куфэркі, рабілі розныя дзіцячыя цацкі з гліны, паперы, картону, якія размалёўваліся. Гэта зрабіла заняткі яшчэ больш цікавымі.

### Першыя вынікі працы.

Памяшканьне пэдагагічнага габінэту пры клюбе занята работамі піонэраў гуртка. Гэта першыя вынікі працы за 5 месяцаў. На выстаўцы каля 400 экспанатаў. Тут і фанэрныя размалёваныя рамкі для фотографій, прыгожыя нажы для рэзкі паперы, размалёваныя куфэркі

*) Гатовыя, вядомыя ўсім формы.




*Выгляд выстаўкі.*

і розныя дзіцячыя цацкі. Гэта—адзін з куткоў выстаўкі. На сьценах у рамках вісяць работы, замалёваныя з натуры.

Ёсьць і колектыўныя мантажныя малюнкі з выразак газэт і часопісяй.

„Работы гуртка ІЗО больш усяго кідаюцца ў вочы чыстатой і акуратнасьцю разьмеркаваньня, што сьведчыць аб умелым кіраўніцтве і настойлівым прывіцьці дзецям дысцыпліны ў працы, да чаго так неабходна прывучаць нашых дзяцей. Больш такіх гурткоў і кіраўнікоў, і мы можам быць упэўнены, што нашы дзеці сапраўды навучацца працаваць і тварыць“,—так піша ў водгуках аб выстаўцы Загадчык Краязнаўчага Музэю таварыш *Славін*.

Першыя крокі ўжо зроблены *і пастунова будзем пераходзіць на цьвёрды шлях па ажыўлёньню піонэр працы.* **А. Ч.**

(Бабруйск).

# Ля ракі.

У рацэ вада
Сьветла-чыстая.
Сьветла-чыстая,
Як срабрыстая.

Над ракой вярба
Распусьцілася
І гальлём к вадзе
Нахілілася.

І шуміць рака,
Воды коцяцца.
Явары стаяць
Ды шапочуцца.

Рыбакі ля ракі
Стаяць з вудамі
Ды з багатымі,
Відаць, думамі.

І плыве чаўнок
Ціха за вадой,
Як калысачка,
Чалавек у ёй.
Берагі ракі
Зажаўцеліся,
Ў кветкі жоўтыя
Разадзеліся.

**Захар Бульбянік.**

# „ШТО ТЫ ЧЫТАЎ“?

Як толькі мы прыходзім са школы, пачынаем падрыхтоўку ўрокаў. Пасьля зьбіраемся групай і ідзем гуляць на рэчку.




Адтуль мы ідзем у Нардом чытаць газэты. Увечары, пасьля чытаньня, мы зьбіраемся і пытаем адзін у другога, хто аб чым прачытаў у газэтах. І тут у нас пачынаюцца спрэчкі.

Я пытаю: „ці ведаеш ты, што ў Шанхаі адбыўся пераварот і генэрал Чан-Кай-Шы страляе рабочых?—Дзе ты вычытаў?“

„Я—у газэце „Батрак“,

„А яе, прызнацца, і ня чытаў я, а ўсё чытаў „Піонэрскую Праўду“ і часопісь „Беларускі Піонэр“.

І так кожны з нас расказвае, хто аб чым чытаў. Мне гэта вельмі падабаецца. Мне думаецца, што кожны піонэрскі атрад павінен правяраць і організоўваць вольны час піонэраў. Атраду ня цяжка ўведаць, што робяць асобныя піонэры, чым цікавяцца. Атрад альбо асобнае зьвяно можа організаваць невялікую экскурсію-пагулянку, схадзіць колектыўна ў чытальню, як мы робім у нашым атрадзе. Пасьля такой работы вельмі цікава пагутарыць на занятках зьвяна, як кожны піонэр паасобку праводзіць свой вольны час, што ён вычытаў у газэтах і г. д.

**М. Янцэвіч.**

# ВАЕНІЗУЕМСЯ.

Піонэры нашага атраду зацікавіліся ваенізацыяй. Іх цікавіла, з якіх частак складаецца наган, вінтоўка і г. д.

Раз мы папрасілі аднаго чырвонаармейца к сабе на заняткі. Ён нам расказаў, як страляюць з нагана, з якіх частак ён складаецца, як яго разабраць і скласьці.

Пасьля гэтага піонэры больш зацікавіліся ваенізацыяй. На зборы атраду ўхвалілі пайсьці на экскурсію да чырвонаармейцаў. На экскурсіі чырвонаармейцы паказалі нам вінтоўку і яе галоўныя часткі. Піонэры хочуць навучыцца страляць. Дзеля гэтага мы будзем запрашаць к сабе на заняткі чырвонаармейцаў і яны нас навучаць, а гэтак сама будзем трымаць сувязь з Чырвонай арміяй.

Патрэбна, каб усе атрады займаліся ваенізацыяй і трымалі з чырвонаармейцамі сувязь.

**Б. Фідэльгольц.**

Барысаў, 41-шы атрад пры заводзе імя Леніна.





# Як мы рыхтуемся да лагераў.

*(Менск, Ляхаўскі раён).*

Наша раённая організацыя падзелена на 6 груп, па 4 атрады ў кожнай. У кожнай групе маюцца два атрады, матар'яльна забясьпечаныя з боку шэфу, і 2 незабясьпечаныя, дзеля таго, каб першыя дапамагалі другім матар'яльна. Кожная група ўтварае агульнымі сіламі ўсіх уваходзячых у яе атрадаў лагерны фонд.

Атрады паасобку і групамі наладжваюць бацькаўскія сходы, дзе ставяцца пытаньні аб задачах лагернай кампаніі і практычнай дапамозе з боку бацькоў. Акрамя таго, піонэры самі ў сябе ў хаце агітуюць сваіх бацькоў за аказаньне дапамогі ў карысьць лагера.

Ня трэба думаць, што гэта „агітацыя" застаецца бяз вынікаў. Напрыклад, дарослыя рабочыя заводу „Чырвоная Зара" адлічылі па паўтара рубля ў лагерны фонд.

Піонэры Ляхаўкі добра ўцямілі сабе прыказку—„на шэфа спадзявайся, а сам не зявай".

Некаторыя атрады наладзілі атрадную капілку ў карысьць лагераў, куды кожны піонэр дае колькі можа. Другія атрады пусьцілі сярод дарослых рабочых, партыйцаў і комсамольцаў падпісныя лісты. Шмат якія атрады, што атрымліваюць штомесячна ад шэфа некалькі рублёў, пакуль што эканомяць іх і кладуць у касу ашчаднасьці (напрыклад, атрад Белдзяржстраху).

Так піонэры Ляхаўкі ўзяліся за збор сродкаў.

Скора піонэратрады пачнуць выходзіць у лагеры.

**Яз. Лявонаў.**

# Патрэбен куток акцябрат.

Акцябраты вельмі часта любяць чытаць „Беларускі Піонэр". Чытаюць яны яго з ахвотай. Бяда, што шмат чаго яны ў ім не разумеюць. Яны бываюць гэтым нездаволены.

Сапраўды, у беларускіх акцябрат сваёй часопісі няма. Дзіцячая-ж часопісь „Мурзілка" выходзіць рэдка, каштуе вельмі дорага, і наогул не задавальняе запатрабаваньняў акцябрат.

Я ўношу прапанову, каб у „Беларускім Піонэры" адвялі старонку для акцябрат або зьмяшчаць больш матар'ялу, які падыходзіць для іх.

**Ю. Таўбін.**



# За вушка ды напаказ.

### Няма ахвоты.

У 1926 г. мы пры сваім 79-м атрадзе заклалі паказальны агарод. Шмат піонэрам прышлося працаваць. Працавалі ўсе шчыра, каб паказаць прыклад.

Дзякуючы добрай апрацоўцы, агарод даў добры ўраджай.



Піонэры далі на сельска-гаспадарчую выстаўку экспанаты з агароду, дзе абяцалі ім прэмію, а іменна—барабан.

Але-ж і засталося гэта абяцанкай. І да гэтага часу барабана піонэрам не далі. Райбюро кажа ўсё, што выпіша. І... выпісвае...

У піонэраў адпадае ўсякая ахвота приступаць да працы на агародзе ў 1927 г.

Павадыр атраду **Ф. Арцем'еў.**

(м. Кудзінск, Магілеўскае акр.).

### Дрэнныя гульні.

Вучні Качанскай школы вельмі любяць гуляць у карты. Зьбяруцца амаль што кожны вечар у чыю-небудзь хату, а то і ў клюб ды й жараць сабе. Гуляюць позна, урокаў ня рыхтуюць. Калі няма купленых карт, дык малююць і гандлююць імі. Гэтая гульня ўсё больш і больш пашыраецца. Гуляюць таксама і ў пер'і. Гуляюць у клясе нават і на занятках. Гульня не абходзіцца бяз лаянкі і боек. Настаўнікі на гэта не зьвяртаюць увагі, а трэба было-б каму-небудзь зьвярнуць сваю ўвагу.

**К. Юдзіцкі.**

(Вёска Качына, Заслаўскага р.).

### Бібліотэка не працуе.

Пры нашым Любоніцкім атрадзе ёсьць бібліотэка. Бібліотэка зусім не працуе. Вінаваты ў гэтым павадыр і бібліотэкар.

Піонэры здавалі апошнія грошы, каб набыць кніжкі і потым чытаць. Хадзілі на працу колектыўна і г. д.

Набылі бібліотэку, а карыстацца няма як.

Кепска...

**Ахул.**

(м. Любонічы, Бабруйшчына).

### Старэйшыя піонэры „паказваюць прыклад“.

У нашым атрадзе старэйшыя піонэры ня хочуць працаваць і хадзіць на зборы. Калі сабяруцца ў клюб, дык толькі крычаць. Калі ўсе піонэры ідуць на заняткі, яны, старэйшыя піонэры, ідуць кудынебудзь на вечарынку, а калі заняткаў няма—у піонэрскі клюб.

На каляды яны нават спраўлялі вечарынку,—ды яшчэ з самагонкай.

Малодшыя-ж піонэры працуюць добра. Такога прыкладу ад старэйшых брацьня хочуць.

**Г. Кр.**

(м. Баева, Аршаншчына).



# ТРЭБА ВУЧЫЦЦА.

*(Гутарка з нашымі карэспондэнтамі).*

Творчасьць нашых чытачоў нельга абыйсьці моўчкі. Яе таксама нельга разглядаць і выключна ў паштовай скрынцы, дзе абмежаванасьць месца часта прымушае крыўдзіць таго ці іншага таварыша нягрунтоўным адказам.

Сярод мастацкае творчасьці нашых чытачоў першае месца, бязумоўна, займаюць вершы. Вершы маюцца наступных таварышоў: *К. Шавеля, Ю. Таўбіна, У. Пукалы, С. Шышко, М. Клімовіча, А. Розны, Я. Пчаляра, Я. Панамарова, С. Сьцяпанава, Я. Крэмара, Дубніка, А. Адашчыка, С. Федаровіча, У. Сянькоўскага, Я, Пятрусэвіча, Юнака, Хвалі, К. Навіцкага, Н. Вярбовіча, Стрыгэльскага, У. Шыдлоўскага, Г. Клёна, С. Дактарэвіча, П. Татура, Х. Ванчукевіча, А. Гладкага, Я. Каплеўскага, Г. Фрэйдзіна, В. Мэйлаха, У. Дзеразы, Г. Клімовіча, М. Стральчэня, К. Комліка і Хмялеўскага.* Гэты сьпіс яшчэ ня зусім поўны. Сюды ўваходзяць самыя маладзейшыя ў пісаньні таварышы і па ўзросту і па тэрміну.

Аб чым-жа пішуць яны ў сваіх вершах? І як пішуць?

*Пішуць аб усім, пішуць усяляк,* як хто хоча. Некаторыя дык проста шлюць допісы, напісаныя радкамі і лічаць іх за вершы. Гэта сьведчыць аб тым, што пісаць усе хочуць і ўсе пішуць. Ня ўмее добра—піша дрэнна. У гэтым нічога дзіўнага. Тое, што сёньня выходзіць кепска, заўтра можа стаць найлепшым. Важна, як падыходзіць таварыш да свае справы, шчырасьць яго, зацікаўленасьць. У каго маецца непасрэдная шчырасьць і жаданьне працаваць над сабою, разьвівацца—адразу адчуваецца гэта ў вершах.

Вось прыклад: Піша Х. Ванчукевіч, піонэр з вёскі. Ён піша на тэму ўсім вельмі ўжо знаёмую—Успаміны аб сьмерці правадыра. Толькі-ж піша ён пасвойму, шчыра і разам з гэтым зусім бязграматна з пункту гледжаньня правілаў вершаскладаньня і нават граматыкі ў некаторых мясцох.

**Успаміны.**

Памёр ты наш дзядок правадыр,
Асталіся мы без цябе.
Пакінуў ты многа заветаў.
Любіў ты нас, а мы цябе
Яшчэ ляпей. Кожны дзень цябе
Мы ўспамінаем. І забыцца
Ня можам аб табе. Ох, як
цяжка забыцца. Правёў ты
Рэволюцыю не абманам.
Прайшоў ты ўсюды чэсна, благародна.
Ніхто крыўды ня мае на цябе,
Толькі адна буржуазія.
Прашчай, наш дарагі Ільліч.
Ляжы спакойна, нярухома.
Заветы твае іспалняем. Расьцем мы
з кожным днём. Сьпі спакойна наш дзядок.
Думкамі ня думай. Піонэры,
Як лаза, лезуць з балота.
Многа зьвеньняў у наз расьце.
Многа піонэраў—і хлопаў і
дзяўчат. Кожны Ільлічовы заветы
знае. Кулакоў у піонэры
ня прымаем. Толькі беднякоў і сераднякоў.
Сьпі спакойна, наш Ільліч. Думкамі
ня думай... Заветы твае выпаўняем.

Гэты верш зьяўляецца вельмі цікавым тым, што ён паказвае ўвесь настрой, думкі і жаданьні нашага сапраўды здольнага і шчырага піонэра. Яго простыя словы захапляюць кожнага, яны набліжаюцца па сіле сваёй лірычнасьці да чыстых народных прычытаньняў.

Але... уся бяда ў тым, што таварыш не аўладаў граматай, нават элемэнтарнай, патрэбнай для кожнага. Такая няграматнасьць не дазваляе аўтару культурна апрацаваць свае думкі, настроі і форму вершаў. Атрымаліся моцныя, неаформленыя



тэхнікай вершаскладаньня словы, злучаныя ў сказы. Аднак, гэты твор цікавы сам па сабе: ён ня ўступае вершам у прозе. Вось чаму ён так падкупляе чытача. Яго нават можна, паправіўшы, надрукаваць.

Але вось большая частка іншых вершаў мае сумны лёс. Яны ня толькі няграматна напісаны, але і напісаны штучна, няшчыра. Проста захочацца таму ці іншаму напісаць допіс на тэму: як працуе атрад ці што-небудзь у гэтым родзе, ён садзіцца ды піша гэта „вершам“. Пісаньне „вершам“ зводзіцца да таго, што аўтар свае сказы піша радкамі адзін пад адным. Часамі ўдасца злавіць за хвост і рыфму,—тады ўжо аўтар лічыць, што верш самы сапраўдны напісаны.

*Як прыклад*:

**Аўтабус.**

(верш Сьцяпанава)

Па зямлі. зямлі намошчанай
бяжыць аўтамабіль.
Дарогай не забошкаю (?)
Імчыцца ён у сьвет.
Бяжыць, бяжыць дарогамі
**І з хуткай быстратой**
Ня мала міль нярэдкіх
Пакінуў за сабой.
Бяжыць то ён і шпарка,
Шпарчэй ужо ня трэба.
**А вунь бяжыць то хмарка**
**Аўтабус бяжыць шпарка.**

і далей у такім-жа стылю і такімі-ж радкамі. Тут мы ўжо дазваляем самому нашаму чытачу ацаніць якасьць такіх радкоў, якія злучаны аднэй тэмай.

Або вось пачатак вершу „*Першы дзень у комсамоле*“:

Той першы дзень
Як я стаў комсамольцам
Памятным доўга застаецца мне,
І сколькі я жыць буду
Век не забуду. . .
. . . . . .

(піша нехта Дубнік).

Некаторыя таварышы панапісвалі ў такім стылю (просты набор слоў без ніякай поэзіі) цэлыя поэмы. Шмат з іх, бязумоўна, злуецца на рэдакцыю, што яна не зьмяшчае. *А ці можна было-б чытаць такую поэму, каб яе зьмясьцілі, і хто-б узяўся яе чытаць?*

Вось такое пытаньне трэба паставіць перад сабой кожнаму аўтару.

На вялікі жаль, мы ня маем шмат месца, каб разглядзець стала вершы кожнага. Але ўсе яны прыблізна, аднолькавыя: слабыя і па тэхніцы, і па сьвежасьці думкі, і па тэматыцы і г. д., што зьяўляецца асноўным вымаганьнем ад мастацкага твору. Апошні павінен біць па пачуцьцях людзей, прымушаць іх уважліва адносіцца да твору. Гэта значыць, твор павінен зацікавіць чытача. А зацікавіць можна чым-небудзь сапраўды моцным, прывабным, сьвежым і орыгінальным. Вось скажам, нашы аўтары часта пішуць аб Леніне. Нічога новага (за выключэньнем Ванчукевіча) яны на гэту тэму не напісалі, як толькі тое, што Ленін памёр і што пакінуў піонэрам свае заветы... Гэтак і з іншымі тэмамі. Старая тэма патрабуе ўважлівай распрацоўкі. Ня пісаць на яе так, як ужо напісана, а пісаць, як яшчэ ніхто ня пісаў. Калі такога новага матар'ялу няма—лепш ня пішы на гэту тэму,—шукай новай, больш цікавай. Творы шмат якіх таварышоў, здольных, бязумоўна, заслугоўваюць увагі. Узяць хоць-бы такіх, як: Шавель К., Таўбін Ю., Розна А., Астапенка. Іх лепшыя творы часопісь ужо зьмяшчала. Бязумоўна, пішуць яны дрэнна ў параўнаньні з тым, чаго ад верша вымагае чытач. Але пішуць, разам з тым, лепш за ўсіх іншых таварышоў.

У іх вершах хоць самая элемэнтарная граматнасьць (пад гэтым трэба разумець: разьвіцьцё тэмы, правільная літаратурная мова, вытрымка поэтычнага стылю—рыфма, вобраз, разьмер), маецца шчырасьць (успрыняцьце пачуцьцём таго, аб чым пішуць, перажытае што-небудзь, набалеўшае і г. д.). Узяць хоць бы казку К. Шавеля „Шустры вожык“ і верш Ю. Таўбіна „Песьня“. Асноўнае, што павінен мець літаратурны твор, тут ёсьць. Праз гэта творы іх набываюць цікавасьць і яны заслугоўваюць таго, каб іх надрукаваць.

Усе іншыя творы павінны спаткаць сумны свой лес: пайці, як кажуць, у рэдакцыйны кош. Як ні жаль, а нічога іншага ня зробіш.

Будзем спадзявацца, што нашы маладыя аўтары цяпер ня будуць крыўдзіцца на рэдакцыю, а яшчэ больш упарта возьмуцца за вучобу.

У другі раз пагутарым аб нашых апавядальніках.

**А. Якімовіч.**

кіпела. Абіраецца момантам падпольны камітэт, дырэкцыя заводу і завадзкі камітэт, якія зараз-жа распачынаюць працу...

Ня сьпіць і царскі ўрад. Працуюць міністры, шпікі і паліцыя. Заля паседжаньня „міністраў“ ахоўваецца паліцэйскімі. Паліцэйскія прапушчаюць да міністраў толькі з дазволу ад‘ютанта. Некаторыя прапусьцілі ў гэтым ліку і падпольшчыкаў.

Далей робіцца пасяджэньне міністраў, дзе абгаварваецца палітычнае становішча краіны. Раптам прыбягае жандар і павядамляе аб паўстаньні рабочых. З міністэрства выганяюцца ўсе пабочныя асобы і міністры раяцца, што рабіць.

Усе былі ў руху. Бегалі паліцэйскія з паведамленьнямі і рабочыя-паўстанцы і г. далей.

Шпікі сочаць на кожным кроку, а паліцэйскія арыштоўваюць усіх падазроных асоб.

Міністры выдаюць розныя загады, каб перамагчы паўстаўшых. Ня сьпяць і паўстанцы. Адбываюцца мітынгі, пасяджэньні і г. далей: Падпольны камітэт РС-ДРП*) надрукаваў адозву да рабочых, у якой гаварылася:

**Таварышы, сёньня 1-ае мая! Гэты дзень належыць сусьветнаму пролетарыяту, гэта наш дзень. Наша пролетарскае сьвята барацьбы за вызваленьне пролетарыяту ад буржуазнага прыгнёту, сьвята міжнароднага соцыялізму.**

Гэтую адозву наклейвалі на галоўных вуліцах Менску. Ля аднэй адозвы сабраліся людзі, чытаюць...

— Паглядзеце, гэта-ж падпольная адозва,—крычыць нехта.

— Міліцыянэр! Трымайце хлапчука, што пабег. Ён наклеіў падпольную адозву.

Міліцыянэр і агэнт ДПУ схапілі беднага хлапчука за каўнер.

Дарэмна хлопчык даводзіў, што гэта яны праводзяць гульню. Яго павялі ў міліцыю, але высьветліўшы ў чым справа, выпусьцілі. Міліцыянэру стала сорамна. Аб гульні было папярэджана ўсім, але здарылася, што адзін ня ведаў.

*) Расейская Сацыял-Дэмакратычная Рабочая Партыя.

Грамадзяне ня ведалі, што і думаць. Сярод іх распаўсюджваліся самыя рознастайныя чуткі аб падпольных адозвах, арыштах у горадзе і г. д.

* * *

Апошнія 4 дні (з 30 красавіка па 3 мая) адбываюцца „мітынгі“, дэманстрацыі, бойкі і г. д.

Гульня канчаецца тым, што рабочыя перамагаюць. **М. М.**

## Піонэр хроніка.

* Пры Заслаўскім піонэратрадзе *organізован музычны* (струнны) гурток, у якім працуюць піонэры і вучні непіонэры.

* У „Дзень лесу“ заслаўскія піонэры і вучні *пасадзілі шмат дрэў.*

* У Койданаве бацькі піонэраў атраду імя Лепсэ на сходзе *пастанавілі выпісаць колектыўна часопісь піонэрам „Беларускі Піонэр“.*

* Сельска-гаспадарчы гурток пры Круглянскай 7-годцы, пасьля зімовай тэарытычнай працы, *прыступіў да практычнай працы* ў сваім школьным садзе.

* Заслаўскі атрад піонэраў імя „Парыскай Камуны“ *сабраў на карысьць замежных піонэраў 3 рублі грошы.*

* Пры 7-гадовай школе ў м. Карме *форпост працуе зусім слаба.* На сходы форпосту, замест 180 піонэраў, прыходзіць 30 чал. Адносіны паміж піонэрамі і настаўнікамі кепскія. Піонэры ходзяць бяз гальштукаў і інш.

Пры гэтай самай 7-годцы быў краязнаўчы гурток, які распаўся. Шкада. Гурток мог-бы шмат чаго зрабіць за лета.



**І так кожны нумар.**

Цана нумару 12 к.




### Задача № 1.

Перад вамі (мал. 1) фігура, якая складзена з 12 запалак і мае 4 роўных квадраты. Трэба пералажыць 4 запалкі гэтай фігуры так, каб атрымалася новая фігура і мела 3 роўных квадраты. У новую фігуру павінны ўваходзіць усе 12 запалак, толькі іначай раскладзеныя. Пералажыць трэба 4 запалкі і ня больш ні менш.



Мал. 1.

### Задача № 2.



Мал. 2.

Выняць (малюнак 2) 6 запалак так, каб з астатніх атрымалася 3 квадраты.

### Задача № 3.

З 9 цэлых запалак утварыць 5 квадратаў.

### Задача № 4.

На стале ляжыць 3 запалкі. Дадайце да іх яшчэ 2 і атрымайце—8.

### Задача № 5.

На мал. 3 вы бачыце востраў, кругом якога канава, шырыня канавы якраз роўна даўжыні аднэй запалкі, так што перакінуць мосьцік пры дапамозе аднэй запалкі нельга: немагчыма абаперціся канцамі аб берагі канавы. Можа ўдасца вам перакінуць мост цераз канаву пры дапамозе *двух* запалак? Помніце, што склейваць альбо зьвязваць гэтыя дзьве запалкі не дазваляецца.




Мал. 3.

## Жарт.

### На лекцыі.

Настаўнік (на вучня, які ня слухае лекцыі). Антось, што ты там робіш?

Вучань. Я... нічога не раблю!

Настаўнік. Я-ж і кажу, што ты нічога ня робіш—лекцыі ня слухаеш!

---

**ЦІ ЧЫТАЎ ТЫ ў мінулым нумары абвестку аб лётарэі І ШТО ТЫ ЗРАБІЎ?**

1-ая дзярж. друк. Зак. № 2252. Галоўлітбел № 25564.